**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 30 (798) 23 ліпеня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



## Вішнёвы фэст, вішнёвыя вяселлі!

*Фота Ул. Скрабатуна.*



ISSN 2077-8023





## Жадаеце добра адпачыць?

**Тады Вам – у Лучай!**

Усяго 20 хвілінаў язды! Цудоўны канцэрт і фаер-шоў!

**Сябры!!! Запрашаем у Лучай на незабыўнае свята!!!**

25 ліпеня – адпуст і фэст у гонар святой Ганны.

**Праграма:**

**15:00** – адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнта. Споведзь.

**16:00** – урачыстая святая Імша, якую ўзначаліць біскуп Аляксандр Яшэўскі з Магілёва.

**18-00** – асвячэнне аўтатранспарту праз заступніцтва святога Крыштафа (апекуна вадзіцеляў і пілігрымаў).

**18:20** – святочны канцэрт з выдатнымі артыстамі і добрай музыкай. Падчас свята таксама будзе магчымасць падсілкавацца і паўдзельнічаць у забавах.

**22:30** – фаер-шоў і феерферк.

Запрашаем разам добра адпачыць духоўна і фізічна!

**Варта запланаваць гэты дзень для Лучая!!!**

***Чакаем Вас!!!***

**Падача абвестак па тэлефоне № 166**

Шаркоўшчынскі раён

# Адна надзея на выбары

■ Чэслаў Якубовіч.

**У гэтым годзе асаблівую трывогу выклікае стан спраў у сельскай гаспадарцы, паколькі напярэдадні жніва на Віцебшчыне каля 170 гаспадарак мелі запазычанасць па зарплаце.**

У гэтым спісе даўжнікоў трывала "замацаваўся" і практычна цалкам сельскагаспадарчы Шаркаўшчынскі раён. На надаўнім раённым святе "Прыдзісненскія крыніцы", на якім ушаноўвалі лепшыя калектывы і лепшых работнікаў за арганізаванае і якаснае правядзенне веснавой сяўбы, настрой у многіх вяскоўцаў быў не самым радасным. У раёне толькі лічаныя гаспадаркі не маюць праблем з выплатай заробкаў сваім работнікам, а самыя гаротныя маюць даўгі яшчэ за працу ў пачатку года, зімой з-за малых аб'ёмаў атрыманай выручкі за прадукцыю. І ў далейшым гэту праблему вырашыць пакуль не ўдавалася, хоць месячны фонд зарплаты па раёну ў мясцовых гаспадарках складае 7 млрд. рублёў. У красавіку-маі толькі невялікую частку даўгоў выплацілі грашыма, астатняе гасілі за кошт натуральнай аплаты праз магазіны. Аднак вясковым сем'ям трэба ж адзявацца-абувацца, а зараз пачынаць рыхтаваць дзяцей да школы, а заробкі ўсё затрымліваюць. Праўда, кіраўніцтва вобласці дало даручэнне перапрацоўчым прадпрыемствам мясамалпрама знайсці рэзервы для разлікаў па заработнай плаце. Але ж хоць і будзе прадукцыя ў перыяд вялікага малака, вельмі шмат сродкаў спатрэбіцца на правядзенне ўборкі вырашчанага ўраджаю. Большасць вяскоўцаў з жыццёвым вопытам спадзяюцца, што дзяржава прыйдзе ім на дапамогу напярэдадні выбараў, і ўсе заробленыя грошы ім аддадуць. Тым часам, адну з вядучых гаспадарак краю "Жвіранка" узначаліў новы кіраўнік Пётр Ананька, які дагэтуль кіраваў сялянска-фермерскай гаспадаркай на Глыбоччыне.

Пастаўскі раён

# Будуемся – значыць жывём

■ Кастусь Александровіч

**З-за крызіса апошнім часам працы і ўзводзімых аб'ектаў у айчынных будаўнікоў паменела, але тым больш радасна, калі адбываюцца наваселлі.**

Вось і ў Паставах днямі ўрачыста здалі ў эксплуатацыю новы сучасны адміністрацыйны будынак, у якім размясцілася мясцовае аддзяленне Дэпартамента аховы МУС Беларусі. Тэндар на яго пабудову летась выйграла прыватная будфірма з Вілейкі "Вясёлка Буд" і меней чым за 10 месяцаў узвяла прыгожы і ўтульны офіс коштам каля 17 млрд. рублёў з гаражамі на 6 службовых аўтамабіляў і трэніровачным цэнтрам для чатырох нямецкіх аўчарак, якія тут таксама нясуць службу. На ўрачыстасці прыбыў глава МУС, генерал-лейтэнат міліцыі Ігар Шуневіч, уручыў некалькі ўзнагарод лепшым супрацоўнікам аддзела, пагоны маёра начальніку аддзела Дзмітрыю Місюку, а калектыву шыкоўны падарунак – новенькі спецаўтамабіль "Ніва-Шэўрале". Госці ўрачыстасцей пераканаліся, што несці службу тут будзе вельмі прыемна, падраздзяленне аснашчана сучаснай спецтэхнікай і сістэмамі відэаназірання за асноўнымі ахоўваемымі аб'ектамі і 260 кватэрамі, якія таксама ўзяты пад кругласутачную ахову. Дарэчы, на Пастаўшчыне таксама атрымалася закончыць капітальны рамонт Палаца Тызенгаўзаў з добраўпарадкаваннем прылягаючай тэрыторыі. Да канца года павінны яшчэ здаць у эксплуатацыю новы 60-кватэрны жылы дом у мікрараёне вуліцы Зялёнай, чакаюць наваселля і будучыя жыхары 12 кватэр у трохпавярховым доме ў прыгарадным аграгарадку Хацілы.

Лёзненскі раён

# З гарадской мітусні на прыроду

■ Станіслаў Раманчук.

**На еўрапейскім кантыненце яшчэ ў пачатку стагоддзя актывізаваліся працэсы выезду жыхароў мегаполісаў і буйных гарадоў на сталае жыццё на ўлонні прыроды.**

Зараз не так актыўна, як у дзяржавах ЕС, але падобныя тэндэнцыі развіваюцца і ў нас. Вось і ў Лёзненскім раёне вёска Асіпоўшчына, якая ледзь поўнасцю не вымерла, мае шанцы стаць у рэгіёне першым агратурыстычным цэнтрам. Адсюль да райцэнтра не так далёка – толькі 20 км і такая ж адлегласць да абласнога цэнтра. Калісьці ў ёй кіпела жыццё на 30 панадворках, потым засталіся жыхары толькі ў двух хатах, паколькі не стала магазіна з поштай, і рэйсавы аўтобус перастаў сюды заходзіць. Аднак па шчаслівай іроніі лёсу цяпер у паселішчы пасяліліся і абуладкаваліся на пастаяннае жыхарства 4 гарадскія сям'і. Яны пабудавалі новыя сучасныя прыгожыя катэджы, пасадзілі сад. Было праведзена і добраўпарадкаванне тэрыторыі, з'явіліся некалькі буйных штучных вадаёмаў, куды запусцілі рыбу. І паступова мясцовасць стала вельмі папулярнай у віцяблян, яшчэ восем гарадскіх сем'яў купілі на аўкцыёне зямельныя ўчасткі, каб узвесці дабротныя пабудовы і перасяліцца сюды жыць назаўсёды. У адроджанай вёсцы дзейнічае зноў ваданапорная вежа, а галоўнае, што новыя жыхары аказаліся вельмі працалюбівымі, актыўна займаюцца прысядзібнай гаспадаркай. Адзін з жыхароў Асіпоўшчыны стаў займацца вырабам драўляных зрубаў, на якія нядрэнны попыт. Мясцовыя ўлады адрамантавалі да вёскі дарогу ад асноўнай трасы і разлічваюць атрымаць грант ЕС/ААН на развіццё менавіта такіх восьтэрыторый у глыбінцы.

Надвор'е ў Глыбокім www. rp5ru

| | Чацвер 23.07.15 | | | | Пятніца 24.07.15 | | | | Субота 25.07.15 | | | | Нядзеля 26.07.15 | | | | Пан. 27.07. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +18 | +18 | +20 | +19 | +15 | +13 | +14 | +14 | +13 | +13 | +18 | +18 | +14 | +15 | +17 | +16 | +13 | +14 | +17 |
| Ціск | 738 | 739 | 739 | 739 | 740 | 738 | 738 | 737 | 737 | 737 | 739 | 739 | 740 | 741 | 740 | 740 | 741 | 742 | 742 |
| Вільготнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Вецер м/сек | 4 | 2 | 3 | 4 | 5 | 8 | 8 | 5 | 5 | 6 | 6 | 2 | 3 | 6 | 6 | 4 | 1 | 3 | 3 |
| | Пд-З | Пд-З | Пд-З | Пд-З | Пд | Пд-З | Пд-З | З | З | Пн-З | Пн-З | Пн-З | Пн-З | З | З | Пд-З | З | З | З |

# Аб самым надзённым

## БЕЗ ЗАМЕЖНАЙ КРЭДЫТНАЙ ДАПАМОГАЙ БЕЛАРУСЬ НЕ ЗМАГЛА Б АПЛОЧВАЦЬ СВАЕ АСНОЎНЫЯ ДЗЯРЖАЎНЫЯ РАСХОДЫ

■ Аляксандр Цішкевіч.

**З іншага боку Беларусь, нягледзячы на эканамічныя цяжкасці ў адрозненне ад тых жа грэкаў, свае абавязацельствы перад замежнымі крэдыторамі выконвае, разлічвалася дагэтуль у тэрмін. Такім чынам, і да прадстаячых выбараў забяспечваецца больш-менш стабільная сітуацыя, плацежны баланс будзе забяспечаны, хоць наш знешні дзяржаўны доўг у маі складаў 12,7 мільярда USD.**

У гэтым годзе ў Беларусі яшчэ раней, чым звычайна, фактычна ў пачатку другой дэкады ліпеня на поўдні краіны масава пачалі ўборку вырашчанага збожжа. Сітуацыя на палетках з-за складаных кліматычных асаблівасцяў года вельмі няпростая, многія палі, асабліва на Гомельшчыне, моцна падгарэлі з-за адсутнасці дажджоў. Па ацэнках спецыялістаў, ураджайнасць зерневых з-за моцнай спёкі і засухі будзе ніжэй мінулагодняй нават на 15-45 %, у залежнасці ад канкрэтнага рэгіёна. Зразумела, наша краіна без хлеба не застанецца, але спатрэбяцца і дадатковыя рэсурсы для закупак збожжа пэўных гатункаў за мяжой.

А вось чарговы XXIV Міжнародны фестываль мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску" пачаўся ў прызначаныя даўно тэрміны з удзелам прадстаўнікоў 41 краіны свету. Праўда, упершыню ў ягонай гісторыі на цырымоніі ўрачыстага адкрыцця гэтага песеннага фэста адсутнічаў беларускі лідар. З-за свайго ўдзелу ва Уфе на двух міжнародных самітах БРЫКС і ШАС А. Лукашэнка разам са сваім расійскім калегам У. Пуціным запісалі два відэапрывітанні ўдзельнікам і гасцям фестывалю, якія былі паказаны з вялізных манітораў Летняга амфітэатра. Не сакрэт, што сёлета для Беларусі вельмі патрэбная стала чарговая замежная фінансавая дапамога.

Кіраўніцтва дзяржавы адчайна шукае яе па ўсяму свету, бо ў сярэдзіне лета інфляцыя ў нас ужо перавысіла 7,3 %.

Золатавалютныя рэзервы краіны сёлета зменшыліся да вельмі малога паказчыка 4,6 млрд. долараў, бо на трэць знізіўся экспарт беларускіх тавараў. Калі разабрацца, то так званая Шанхайская арганізацыя супрацоўніцтва – гэта спулка вельмі далёкіх ад нас азіяцкіх постсавецкіх краін, куды уваходзіць яшчэ і Расія з Кітаем. Доўгі час у нас быў пры ШАС туманны статус зацікаўленага партнёра, які зараз павысілі да назіральніка.

Беларускі кіраўнік не хаваў ва Уфе на сустрэчы з гаспадаром Крамля, што ёсць істотныя праблемы двухбаковых адносін і цяжкасці, негатыўныя тэндэнцыі з пастаўкамі беларускіх тавараў на расійскі рынак. Пасля таго, як некалькі дзён беларускі рубель стаў "слабець" у адносінах іншых валют, расійскі міністр фінансаў А. Сілуанаў паведаміў аб тым, што А. Лукашэнка папрасіў у У. Пуціна чарговы крэдыт у суме 3 млрд. долараў. Крэмль пайшоў насустрач сваім беларускім калегам, хоць расійскі рубель хістаецца, слабее з-за замежных санкцый і падзення сусветных цэн на нафту.

Таксама відавочна, што ў маскоўскіх чыноўных кабінетах сядзяць не дурні і ўслед за аказаннем фінансавай дапамогі Крэмль яшчэ болей узмацніць сваю ваенную прысутнасць на тэрыторыі нашай краіны. З іншага боку Беларусь, нягледзячы на эканамічныя цяжкасці ў адрозненне ад тых жа грэкаў, свае абавязацельствы перад замежнымі крэдыторамі выконвае, разлічвалася дагэтуль у тэрмін. Такім чынам, і да прадстаячых выбараў забяспечваецца больш-менш стабільная сітуацыя, плацежны баланс будзе забяспечаны, хоць наш знешні дзяржаўны доўг у маі складаў 12,7 млрд. USD.

У цэлым сукупны знешні доўг краіны (банкаў і прадпрыемстваў) яшчэ большы і дасягае амаль 38,3 млрд. долараў і тут мы ў пэўнай ступені падобныя на Грэцыю, паколькі новыя крэдыты ідуць пераважна на "затыканне дзірак", а не прыцягваюцца на інвестыцыйныя праграмы развіцця. Хутчэй усяго, кастрычніцкія выбары пройдуць па звычайнай схеме, а вось далей кіраўніцтву Беларусі прыйдзецца прымаць стратэгічныя рашэнні, куды рухацца далей і ці пачынаць, нарэшце, асцярожныя паступовыя рэформы ў эканоміцы. Насельніцтва ўжо пакрыху пачынаюць інфармаваць улады аб тым, што пачнуць павышацца тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі і на праезд у грамадскім транспарце. Ва ўрадзе ёсць планы з 2018 года ўвесці аплату 100 % паслуг ЖКГ, за выключэннем забеспячэння цяплом.

Аднак – гэта усё ж аддаленая перспектыва, а пакуль у Беларусі відавочны крызіс, бо ў сярэдзіне лета не атрымалі своечасова зарплату амаль 100 тысяч чалавек. І надалей такія тэндэнцыі будуць захоўвацца, паколькі ў многіх прадпрыемстваў і арганізацый ёсць праблемы з абаротнымі сродкамі. Адбываецца гэта таму, што дрэнна рэалізуецца выробленая прадукцыя, пачаўся спад вытворчасці, а атрымаць новыя крэдыты і знешнія інвестыцыі таксама стала праблематычна. На гэтым фоне беларусы церпяць цяжкасці, але трымаюцца за свае працоўныя месцы. Прасцей простага звольніцца з працы, але ж потым паспрабуй у родных мясцінах знайсці новую, ды і за мяжой, паколькі ў той жа Расіі цяпер з працаўладкаваннем зусім не мёд для айчынных гастарбайтараў.

## Дзень за днём

**Беларусь папрасіла ў Расіі 3 млрд. долараў. Толькі ў І-м квартале з буйных айчынных заводаў звольнілі звыш 13 тысяч чалавек. У сярэдзіне лета выраслі даўгі па зарплатах ужо ў 555 прадпрыемстваў і арганізацый, заробкі не атрымалі 95 тысяч рабочых і служачых. Эксперты Сусветнага банка лічаць, што на прадпрыемствах краіны празмерная колькасць персаналу 300 тысяч. Чыноўнікі ад гандлю на 90 дзён прыпынілі дзейнасць адразу 177 магазінаў папулярнай сеткі "Дабраном", без працы засталіся 5 тысяч працаўнікоў. За адны суткі ў спёку ў вадаёмах краіны патанулі 4 чалавекі.**

# Важнейшыя навіны свету

**Кітай.** Пасля сур'ёзнага абвалу акцый буйнейшых кітайскіх кампаній рухнулі іншыя азіяцкія фондавыя рынкі ў Японіі, Паўднёвай Карэі, гэта пагражае дэфолтам Расіі.

**Туркменістан.** Урад краіны аб'явіў неплацежаздольным кампанію "Газпрам", якая сёлета перастала плаціць па даўгах у 400 млн. $ перад "Туркменгаз" за набыты туркменскі газ.

**Англія.** Эксперты Оксфардскага інстытута энергетычных даследаванняў пацвердзілі, што для Расіі газавы кантракт з Кітаем нявыгадны эканамічна, акупіцца не раней 2050 года.

**Фінляндыя.** Дэпутаты Парламенцкай асамблеі АБСЕ асудзілі "ваенную агрэсію" Расіі на Украіне і запатрабавалі вывесці адтуль войскі, спыніць так званыя "гуманітарныя канвоі".

**Боснія і Герцагавіна.** Родныя і блізкія забітых сербамі звыш 8 тысяч баснійцаў абурыліся ветам Расіі пры прыняцці рэзалюцыі Савета бяспекі ААН па генацыду ў Срэбніцы.

**Францыя.** Урад краіны канчаткова вырашыў не пастаўляць верталётаносцы тыпу "Містраль" Расіі з-за яе агрэсіі ў Данбасе, французы вернуць Маскве 1,2 млрд. долараў.

**Румынія.** Пракуратура горада Плаешці арыштавала рахункі і маёмасць рускай кампаніі Лукойл на 2 млрд. еўра за ўхіленне ад выплат падаткаў і адмыванне грошай.

**Швецыя.** Былы прэм'ер-міністр Карл Більдт пацвердзіў, што Пуцін дагэтуль трымае ў Данбасе 9 тысяч войск пад выглядам "добраахвотнікаў", хоча раскалоць Украіну і ЕС.

**Англія.** Тэлеканал Channel 4 паказаў фільм-расследванне "З Расіі з наяўнымі" пра скупку чыноўнікамі Пуціна элітнай нерухомасці ў Лондане на 1 млрд. фунтаў штомесяц.

**Украіна.** Спецслужбы ўстанавілі факт прыбыцця зноў на станцыю Ілавайск з Расіі 6 вагонаў з боепрыпасамі і снараджэннем для забеспячэння баевікоў "ДНР" і "ЛНР".

**Літва.** Мэр Вільнюса Рэмігіюс Шымашус публічна катэгарычна адмовіўся наведаць акупіраваны Крым па запрашэнні расійскага пасла А. Удальцова.

**Расія.** На радыё "Эхо Москвы" пісьменнік Д. Быкаў заявіў, што пуцінскі рэжым непазбежна загоніць краіну ў труну, цяперашні стан грамадства прывядзе РФ да вайны.

**Японія.** Канцэрн Honda адклікаў 4,5 млн. сваіх аўтамабіляў у свеце, за выключэннем Паўночнай Амерыкі, з-за выяўленых праблем з падушкамі бяспекі Takata.

**Балівія.** Падчас пастырскага візіту папа Рымскі Францыск паспрабаваў чай з лістоў кокі, сыравіны для вырабу какаіну, балівійцы лічаць гэту расліну святой і карыснай для здароўя

**КНДР.** З-за самай моцнай і працяглай за 100 гадоў засухі краіне зноў пагражае голад, бо недаядаюць 18 млн. чалавек, 70 % насельніцтва, у многіх дыярэя з-за недахопу вады.

# З 1 верасня ВНУ падымаюць плату за навучанне




■ **Ганна Асокіна**

**З 1 верасня для першакурснікаў змеціцца плата за вучобу ў параўнанні з мінулым годам, распавялі ў прэс-службе Мінадукацыі.**

Пры прызначэнні аплаты ВНУ і ССНУ будуць глядзець на памер тарыфнай стаўкі першага разраду, устаноўленай для работнікаў бюджэтных арганізацый, ўзровень коштаў і тарыфаў на камунальныя паслугі і паслугі сувязі на 1 ліпеня гэтага года.

Усе цэны на навучанне ў дзяржаўных установах адукацыі залежаць ад выдаткаў на падрыхтоўку спецыяліста па канкрэтнай спецыяльнасці. Так, самымі дарагімі спецыяльнасцямі апынуліся міжнароднае права на факультэце міжнародных адносін БДУ, а таксама правазнаўства і эканамічнае права на юрфаку. За год тутэйшым студэнтам прыйдзецца выкласці 24.680.000 рублёў.

Другое месца па кошту занялі спецыяльнасць «Дызайн» на факультэце сацыякультурных камунікацый, «Усходняя філалогія» на філфаку і «Лінгвакраіназнаўства» і «Міжнародныя адносіны» на ФМА – 24.360.000 рублёў.

Трэцяе месца дасталася эканамічнаму факультэту, навучанне на якім каштуе 23.940.000 у год. Дарэчы, самы бюджэтны варыянт для очнікаў у БДУ - гэта «Беларуская філалогія» і «Руская філалогія» на філфаку, якія каштуюць 17.660.000 у год.

У цэлым, усе ВНУ краіны паднялі расцэнкі на 10 - 15% у параўнанні з мінулым годам. Аднак, некаторыя з іх трымаюць леташнія расцэнкі. Напрыклад, Акадэмія кіравання пры Прэзідэнце захавала на дзённае платнае навучанне 18.380.000 рублёў, ранейшымі засталіся цэны і ў Беларускім дзяржаўным медыцынскім універсітэце, дзе самы дарагі факультэт – стаматалагічны, студэнтам якога трэба заплаціць 22.980.000 рублёў у год. Завочнікам жа платнае навучанне абыйдзецца ад 6 мільёнаў у БДЭУ, БДПУ ім. М.Танка, МДЛУ да 8 мільёнаў у БДУ.

Дарэчы, кошт навучання па раней заключаных дагаворах на навучанне (для навучання на II-V курсах) з 1 верасня не змяняецца. Калі ж падрыхтоўка спецыяліста мае сацыяльную значнасць, кіраўнікі дзяржаўных устаноў адукацыі могуць даць адтэрміноўку ці растэрміноўку плацяжу.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Старшыня БКДП, былы І-ы намеснік главы вобласці А. Ярашук заявіў, што пасля выбараў краіну чакае дэвальвацыя, падзенне заробкаў, а 2016 год будзе непрадказальным.

**Гомель.** З-за сур'ёзнага крызіса "Гомсельмаш" скараціў ужо 452 работнікаў, на мясцовым заводзе ліцця і нармаляў, які ўваходзіць у склад холдынга, страцілі працу 612 чалавек.

**Мінск.** Народу сёлета летам не да выбараў, як падкрэсліў палітолаг С. Альфер, інтарэс да кампаніі невялікі і верагодна, што будуць зарэгістраваны тры кандыдаты ў прэзідэнты.

**Абчак.** Па дамоўленасці з канцэрнам GM на аўтазаводзе ЗАТ "Юнісан" пад Мінскам пачнуць зборку дарагіх мадэляў 4-га пакалення Шэўрале і Кадылак для аўтарынку Расіі.

**Шклоў.** Пасля Купалля ля аграгарадка Александрыя, дзе рос А. Лукашэнка, маладая жанчына на БМВ урэзалася ў прэзідэнцкі картэж, у ДТЗ пацярпелі 5 чалавек, двое – моцна

**Лельчыцы.** З пагрозай для жыцця пажарных праходзіла ліквідацыя буйнейшага ў Беларусі верхавога лясного пажара ў мясцовым лясгасе на плошчы 627,4 гектары.

**Вілейка.** Падчас спецаперацыі "Фільтр" і суцэльнай праверкі аўтатранспарту на дарозе Мінск-Нарач міліцыя затрымала і канфіскавала 4615 літраў нелегальнага спірту.

**Лагойск.** Бюст савецкага вусатага дыктатара прыбралі ўглыб гісторыка-культурнага комплекса "Лінія Сталіна" падалей ад узводзімай тут праваслаўнай капліцы.

**Магілёў.** Падатковая інспекцыя прымусіла 45-гадовага гараджаніна выплаціць 18 мільёнаў рублёў падатку за грошы, узятыя ў доўг у Расіі, якія ён яшчэ не вярнуў знаёмай расіянцы.

**Раўбічы.** Знакамітай беларускай біятланістцы Д. Домрачавай прыйшлося часова спыніць трэніроўкі да сезона пасля перанесенага ёй моцнага віруснага захворвання манануклеоз.

**Клічаў.** З-за моцнай засухі многія калодзежы жыхароў раёна зусім абмялелі, раней суднаходны Днепр у шэрагу месцаў можа перайсці ўброд, прапалі камары і мошкі.

**Столін.** На тэрыторыі раёна пастановай урада Беларусі стварылі новы водна-балотны заказнік "Марочна" плошчай 6445 гектараў, там шмат жывёлін і раслін з Чырвонай кнігі.

**Барысаў.** Вучоныя-гісторыкі НАН Беларусі пацвердзілі, што жыхар горада на рыбалцы на рацэ Бярэзіна знайшоў ржавы баявы тапор ХІ стагоддзя эпохі вікінгаў.

**Вілейка.** Суд пакараў 2,5 гадамі турмы былога дырэктара райгаза А. Маркевіча за злоўжыванне ўладай, ён прымушаў падначаленых капаць бульбу, збіраць грыбы.

**Ашмяны.** Па праграме трансгранічнага супрацоўніцтва "Польшча-Беларусь-Украіна" ля аграрнага каледжа ў райцэнтры пабудавалі новы сучасны стадыён са штучным газонам.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** З уборкі рапсу пачалася ў вобласці уборка зерневых і зернебабовых, на жніве будуць задзейнічаны звыш 1800 камбайнаў, але ёсць праблемы з закупкай саляркі.

**Сянно.** Пасля трагедыі на штучным вадаёме, дзе ўтапіліся трое дзяцей, нават не ўдалося высветліць, каму належыць гэты аб'ект, а ўсяго за паўгода у вобласці загінула 15 дзетак.

**Віцебск.** Падчас міжнароднага фестываля мастацтваў"Славянскі базар" усе падраздзяленні міліцыі вобласці працавалі па ўзмоцненаму варыянту службы.

**Паставы.** Глава МУС Беларусі генерал-лейтэнант міліцыі І. Шуневіч адкрыў у райцэнтры новы сучасны трохпавярховы будынак райаддзялення Дэпартамента аховы.

**Талачын.** Следчы камітэт перадаў у суд крымінальную справу 55-гадовага жыхара горада, які застрэліў супрацоўніка Дзяржінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.

**Полацк.** Французскі аўтаканцэрн Renault адкрыў у горадзе свой 8-мы па ліку ў Беларусі дылерскі цэнтр "Лозанж" фармата "МікраБокс" з СТА аўтамабіляў на 7 пастоў.

**Глыбокае.** У рамках чарговага "Вішнёвага фестывалю" прайшоў Дзень моладзі, ля набярэжнай возера Вялікае адкрылася "вуліца" ліхтароў , стваральных кузняў "В ажуре".

**Браслаў.** Падчас праверкі вечарам дакументаў ля латвійскай граніцы адзін з п'яных кантрабандыстаў цыгарэт напаў на пагранічніка і быў затрыманы, напарнік змог збегчы.

**Віцебск.** Маладую 19-гадовую дзяўчыну, якую лічылі патанулай пасля выпіўкі на беразе ракі і да ночы вадалазы шукалі яе ў Заходняй Дзвіне, знайшлі жывой раніцай дома.

**Гарадок.** Пасля атрымання дыпломаў кожная з сямі груп выпускнікоў аграрнага каледжа пасадзіла туі на алеі, усіх 155 маладых спецыялістаў забяспечылі першым месцам працы.

**Ліёзна.** На прышкольным участку Дабрамысленскай СШ па праекту "Дапамажы людзям", які курыруюць галандцы, атрымалі з 15 сотак 1,5 тоны ранняй бульбы сорту "Дзітта".

**Ушачы.** Пасля пяці дзён пошукаў вадалазы знайшлі на возеры Павульскім труп патанулага 46-гадовага рыбака, за тыдзень на вадаёмах вобласці загінула 5 чалавек.

**Лосвіда.** Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі выдзеліла 37 млрд. рублёў для рэканструкцыі мясцовага турыстка-аздараўленчага комплекса з новай кацельняй і басейнам.

**Друя.** Пры падтрымцы парафіі касцёла св. Тройцы ў ваколіцах гарпасёлка прайшоў тыднёвы пленэр 18 мастакоў, кожны з іх пакіне храму па адной намаляванай карціне.

**Віцебск.** Пасля правальнага 1-га круга чэмпіяната Беларусі па футболе пайшоў у адстаўку з пасады галоўнага трэнера ФК "Віцебск" 44-гадовы спецыяліст Сяргей Вехцеў.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Уладзімір Скрабатун

# Неверагодна! Былі часы, калі пліскія сыры ішлі на экспарт!

**Дзе сёння пачытаць польскія газеты 1930-х гг, у прыватнасці папулярную газету нашага краю "Kurjer Wileński"? Так, у архівах Варшавы і Вільні. Аднак, білет цягніком да Варшавы каштуе 200 у.а – туды-назад, плюс – кошт візы. Дарагавата! А можна зрабіць інакш, не выходзячы з хаты, – зайсці на сайт польскай Нацыянальнай Бібліятэкі ў Варшаве". Гэтым і заняўся Кастусь Шыталь. Перад намі паўстае неверагодная гісторыя Глыбоччыны!**

**Працытуем толькі дзве нататкі з "Kurjer Wileński" на адну і тую ж тэму – з розных нумароў газеты – у перакладзе на беларускую мову.**

### Малачарскі кааператыў ў Плісе

*("Kurjer Wileński" №283, 15 кастрычніка 1936 года).*

"Адной з найвялікшых грамадскіх арганізацый, якія сталі да барацьбы за стварэнне гаспадарчага дабрабыту земляроба ў Дзісненскім павеце, з'яўляецца Малачарскі Кааператыў у Плісе, закладзены ў 1928 годзе. Кааператыў гэты сёння ёсць, без сумневу, найбагацейшым прадпрыемствам такога роду на абшарах Паўночна-Усходніх Земляў[1]. Па-за вытворчасцю характэрнай для малачарні прадукцыі[2], Кааператыў запусціў у рух сыраварню.

Тэхнічнае абсталяванне ў выглядзе 14 велізарных машын мадэлі 1935 года з ёмістасцямі, якія змяшчаюць да 1.000 літраў, як і спецыялісты, былі атрыманыя з Фінляндыі. Вага выробляных сыроў вагаецца ў межах ад 60 да 90 кілаграмаў. Прадукцыя сыраварні экспартуецца таксама за мяжу пры пасярэдніцтве Саюза Малачарскага і Яйчарскага ў Варшаве. Пра вялікае значэнне Малачарскага Кааператыва для вёскі сведчыць пастаянны ўзрост лічбы сябраў кааператыва, а таксама павелічэнне колькасці прадукцыі, а менавіта: 1928 год скончыўся лічбай 58 сябраў, а 1935 год прынёс лічбу 786 сябраў; у 1928 годзе перапрацавана 109.000 літраў малака, а ў 1935 годзе – 1.647.000.

Малачарскі кааператыў і сыраварня ў Плісе ёсць найлепшым прыкладам, чаго можа дасягнуць супольная праца, накіраваная на развіццё гаспадарчага жыцця".




**Шкада, але гісторыя не мае ўмоўнага ладу... Так мог бы сёння выглядаць адзін з рэкламных плакатаў плісkіх экспартных сыроў!** *Калаж Ул. Скрабатуна.*

**Заўвагі рэдакцыі:**

**1** – "Паўночна-Усходнія Землі" – адна з назваў Заходняй Беларусі ў афіцыйным дыскурсе міжваеннай Польшчы.

**2** – Асноўнай прадукцыяй малачарняў было масла. Масла з Дзісненскага павета ішло на экспарт у Заходнюю Еўропу яшчэ перад І Сусветнай вайной.

### Малачарскі кааператыў у Плісе.

*("Kurjer Wileński", №278, 10 кастрычніка 1938 года).*

"У 1928 годзе паўстаў у Плісе малачарскі кааператыў, які з кожным годам развіваўся ўсё больш паспяхова. Пры гэтым кааператыве ў 1930 годзе пачаў працаваць склад яек, а ў 1934 годзе – вытворня сыроў. Кааператыў мае па адной філіі ў гмінах: Плiскай, Глыбоцкай, Залескай, Лужэцкай, Порплiскай, Докшыцкай і Галубіцкай. Цяпер кааператыў мае 823 сябраў, а памер сяброўскіх паёў дасягнуў 60.750 злотых. Мала-ко дастаўляецца ад 2.025 кароў. У 1937 годзе абарот дасягнуў 227.714 злотых, прыносячы кааператыву даход у памеры 55.970 злотых. Кошты выдаткаў на працу кааператыва дасягнулі 55.979 злотых, прычым кошты працы ў адносінах да абароту дасягаюць без амартызацыі і іншых выдаткаў 21,38%, а разам з амартызацыяй і іншымі выдаткамі 25,94%".

***

Куды падзеліся гэтыя 14 велізарных фінскіх машын з Плісы?– вось пытанне. Мо вызваліцелі "ад польскага ярма" пасля 17 верасня 1939 года вывезлі іх у глыб Расіі, як сёння падобныя вызваліцелі ад "бандэраўцаў" рабуюць заводы на Данбасе ды вывозяць з іх абсталяванне? Ці ёсць адказ на гэтае пытанне з вуснаў плісkіх старажылаў?

Аб усім іншым аўтар хацеў бы прамаўчаць! Не буду параўноўваць паспяховаць Плiскай малачарні і сыраварні 1930-х гг з эфектыўнасцю дзясятка, разам узятых, сучасных тутэйшых калгасаў. Без каментароў!

А вось самой Плісе, з гледзішча таго, што там хутка адкрыецца санаторна-курортны комплекс, які прадугледжвае вялікую колькасць наведвальнікаў (пацыентаў), мо і трэба адрадзіць выпуск слаўных некалі плісkіх сыроў. Пабыў чалавек у санаторыі, а дадому – у якасці пачастунку – павёз плісkі сыр! Можна з гэтай нагоды падумаць і аб Плiскім Сырным Фэсце.

Ну, аб Плiскім Рыбным Фэсце мы паразважаем у адным з наступных нумароў.

Партрэт у летапіс Глыбокага:

# Ганна Зяновіч



**Ганна Сафія Зяновіч, па першаму мужу – Зебжыдоўская, па другім – Радзівіл. Уласніца Глыбокага і фундатарка царквы ў Порплішчы**

У 1628 годзе Ганна-Сафія выйшла замуж за Альберта Уладзіслава Радзівіла і прынесла ў пасаг Смаргонь, Глыбокае і Беліцу.

Паходжанне роду Зяновічаў звязана з сербскімі або малдаўскімі дэспатамі (намеснікамі правіцелей), якія пасля турэцкай навалы ў канцы 15 ст. перабраліся ў Вялікае княства Літоўскае.

У 1401 годзе ўпершыню ў гістарычных дакументах сустракаецца імя Зіновія Братошыча, які і даў пачатак роду Зяновічаў.

*Ул. Скрабатун.*

■ Уладзімір Скрабатун

# Каму не спадабаўся Вішнёвы фэст?

Па вялікім рахунку, у аўтара гэтых радкоў, няма ніякіх крытычных заўваг накошт правядзення Вішнёвага Фэсту, які толькі што адбыўся ў нашым горадзе. Могуць быць толькі пажаданні! Напрыклад, чаму ў нас, на любыя масавыя мерапрыемствы, у адрозненне, хаця б ад таго Браслава, не запрашаюцца сучасныя папулярныя беларускія гурты? Напрыклад, "Стары Ольса", ці "Ліцы Талер", тэатр "Ды-Грыза", які ставіць фантастычныя фаер-шоў, ды папулярны гурт "Рэха", дзе салірує афрабеларус Андрусь Такінданг, адзін з вядучых музычных праграм на Беларускім ТБ.

Але, падкрэсліваю, гэта, усяго – толькі пажаданні аўтара гэтых радкоў.

Любая газета мае вялікі недахоп перад інтэрнэтам, найперш – за аператыўнасць. Газета можа апісаць падзеі толькі праз тыдзень, а інтэрнэт, фактычна – онлайн. Праз тыдзень, хіба што, і пісаць аб падзеі не варта, бо ўсе даўно аб ёй даведаліся з інтэрнэту.

Аўтар гэтых радкоў аператыўна даслаў фотарэпартаж аб Вішнёвым Фэсце на сайт газеты "Наша Ніва". Рэпартаж з'явіўся! І адразу пачаліся негатыўныя каментары, накшталт: "Все наименования товаров на русском языке – Глубокое, это где...в России или в Беларуси?"

Між тым, аўтар гэтых радкоў, пазней, папрасіў мадэратара дадаць яшчэ чатыры здымкі, найперш, салюта. Выказаў мадэратару сваё здзіўленне након негатыву ў каментарах...

На што мадэратар сайта адказаў: "Негатыўныя каментары аж зашкальваюць! Яшчэ больш дастаецца А. Дзярновічу за яго гістарычны артыкул! Я сам – у шоку!"

Гэта значыць, што згаданы вышэй каментар: "... Глубокое, это где ..." – яшчэ "боская раса", таму яго і прапусцілі. Дзясяткі, а то й сотні негатыўных каментароў, папросту, не апублікавалі!

Так, спадарства, ідзе інфармацыйная вайна супраць нашай краіны, якую шмат хто і не заўважае! Зараз з'явілася шмат "троляў", якія не за бясплатна, а за заробак пішуць увесь гэты негатыў, і нават не ў самой Беларусі, а ў якімсьці Піцеры ці Пскове. Пішуцца гэтыя каментары пад заказ суседніх спецслужбаў. Ну, не дае ім спакою той факт, што ў Беларусі адраджаюцца традыцыі, рэстаўруюцца замкі, беларусы пачалі апранаць вышыванкі, ды й шмат хто пачаў размаўляць на роднай мове... Маўляў, вось сваламу, не хочуць станавіцца рускімі!

Вішнёвы Фэст – тут ні пры чым, толькі нагода, зачэпка, як і цікавы праўдзівы гістарычны матэрыял з мінулага Беларусі. І ўжо колькі бруду хутка будзе выліта на адрас усіх кандыдатаў у прэзідэнты Беларусі!

А Вішнёвы Фэст у Глыбокім, сапраўды, быў файны!




**Урачыстае адкрыццё Вішнёвага Фэсту ў Глыбокім.**

# “Дранік-фэст” сярод півоняў Ады



Людміла Ардынская на дранік-фэсце ў Германавічах

**Доўгі час культурна-асветніцкі Цэнтр імя Язэпа Драздовіча ў Германавічах збірае ў мастацка-літаратурным музеі імя Міхася Райчонка і на яго сядзібе шмат прыхільнікаў беларускай культуры, мастацтва і літаратуры, аматараў роднага слова.**

■ **Людміла Ардынская**, *тэкст;*
**Алена Капшуль**, *фота*

Ініцыятыва, задума, ідэі правядзення розных імпрэзаў зыходзяць ад кіраўніка Цэнтра Ады Райчонак пры падтрымцы аднадумцаў, сяброў і проста знаёмых і незнаёмых людзей, якіх цікавіць беларушчына.

Напрыканцы чэрвеня быў зладжаны “Дранік-фэст”, менавіта з такім назовам ён задумваўся Адай Эльеўнай яшчэ ранняй вясной, а, мабыць, і раней. Прадумвалася ўсё да дробязяў, каб як мага цікавей прадставіць не толькі традыцыйныя нацыянальныя стравы з бульбы і дэгуставаць іх, але і даведацца пра гісторыю з’яўлення бульбы ў краінах свету, у Беларусі, пра яе лекавыя якасці, выкарыстанне ў харчовай прамысловасці.

Значная ўвага надавалася арганізацыі свята, стварэння той сардэчнай атмасферы і гасціннасці, у якой кожны адчуваў бы сябе жаданым госцем, актыўным удзельнікам, меў вясёлы і жартаўлівы настрой, як у песні: “Гарні, гарні бульбу з печы, у торбачку, дый за плечы…”

Тэрыторыя сядзібы музея вялікая, ахвотнікаў прымацьудзел у розных мерапрыемствах змесціцца шмат. Адметнасць сядзібы – тры пастаці, мабыць, зробленыя з гіпсу мясцовай дойлідкай, беларусаў у нацыянальных строях.

І яшчэ, што моцна ўражвае і радуе вока і цешыць душу, - кветкі: вялікія і пышныя кусты півоняў розных фарбаў. Белыя, ружовыя, чырвоныя, бардовыя яны яшчэ не паспелі адцвісці. Абцяжараныя буйнасцю цвету, галоўкі півоняў схіляліся нізка долу. Немагчыма было не падыхаць водарам цудоўных прыгажунь. І стварае гэтую прыгажосць спадарыня Ада, мастацкая галерэя якой прыцягвае ўвагу нават замежных гасцей-турыстаў. На жаль, чалавечыя магчымасці абмежаваныя. Вельмі дарэчы была б дапамога школьнікаў вясной у доглядзе за кветкамі былой настаўніцы Германавіцкай школы. Справа, якой Ада Эльеўна аддана служыць, урэшце рэшт застанецца людзям.

На “Дранік-фэст” сабралася каля пяцідзесяці чалавек. На сталах, засланых ільнянымі абрусамі – кветкі, збаны і гарлачы з яблычным сокам і, галоўнае, стравы з бульбы. Гаспадынькі з Шаркаўшчыны, Германавіч, Лужкоў, шчыльна, як кажуць, і яблыку некуды зваліцца, заставілі сталы прыгатаванымі з бульбы стравамі. Вобразна кажучы, вочы разбягаліся: бульбянікі з рознымі начынкамі: мясам, цыбуляй з яйкамі, творагам, грыбамі, журавінамі; фаршываваная мясам бульбачка з кропам, бульба-фры, дранка, дранікі з мясам, тушаныя ў масле, бульбяны булён з грыбамі, бульбяное пюрэ з селядцом. І, вядома ж, клёцкі з “душамі”, начыненыя мясам. Акрамя таго, амаль на працягу ўсяго свята гаспадынькі з Лужкоў Алена Шыпіла і Каця Грыдзюшка выпякалі дранікі. Гарачанькія, “з пылу, з жару” са смятанкай яны ішлі нарасхват. Адначасова на прысаку распаленага вогнішча ў фальзе запякалася свежанькая, разрэзаная напалову са скрылёчкам сала бульбачка, якая ўжо паспела вырасці ў агародзе шаркаўшчанкі Алены Ліпскай.

Юшка з дзісненскай рыбы, звараная на вогнішчы, даўно займела асаблівы брэнд падчас германавіцкіх частаванняў гасцей. Як сапраўдныя кухары праявілі свае здольнасці Аляксандр Райчонак і Пётр Баравік.

Прысутныя журналісты назвалі свята “Бульбяным калейдаскопам”, таму што на ім пракручваліся розныя моманты: прапаноўваліся віктарыны з пытаннямі “на засыпку”, па словах Ады Эльеўны, конкурсы на веданне гісторыі Глыбоччыны і Шаркаўшчынскага краю. Гучалі песні ў выкананні артысткі Белдзяржфілармоніі Таццяны Матафонавай і барда Георгія Станкевіча. Пад чароўныя гукі скрыпкі Таццяны і мелодыю акардэона Вольгі Фёдаравай моладзь танчыла.

Паэты народнага літаратурна-музычнага аб’яднання “Світанак” (г.п. Шаркоўшчына) Кацярына Сосна, Надзея Паляк, Людміла Ардынская, Віктар Лагун прачыталі вершы пра бульбу.

Рэй вядуць Ада Райчонак і Таццяна Смоткіна, журналістка з Глыбокага. Удзельнікі фэсту актыўна адгадваюць загадкі, успамінаюць песні пра бульбу і назвы гатункаў каралевы страў: “Журавінка”, “Ласунак”, “Тэмп”, “Скарб”, “Лілея”, “Даронка” чуецца адусюль. Беларусы-бульбашы добра ведаюць гатункі сваёй кармілiцы. У выніку, Таццяна Смоткіна ўзнагароджвае пераможцаў паштоўкамі з відамі Глыбокага, магнiцікамі. Камусьці пашчасціла атрымаць кніжку Отана Гедэмана “Глыбокае”.

З упэўненасцю можна сказаць, што бульбяны фэст атрымаўся, нарадзілася новая ідэя ўганаравання той культуры, якая завецца “другім хлебам”, без якой нельга ўявіць стол беларуса. Як і першы, жытні, ён нялёгкі: трэба перашчупаць кожную бульбінку ўсяго ўраджаю па некалькі разоў – пры пасадцы, копцы і пераборцы, адбараніць ад злейшага ворага каларадскага жука, знесці на плячах мяхі з усяго поля. Бульбяны фэст, падаецца мне, з лёгкай рукі Ады Райчонак павінен заняць сваё месца ў шэрагу такіх свят, як вішнёвы фэст у Глыбокім, яблычны ў Шаркоўшчынскіх Алашках. Адлік пачаўся з 2015 года. Нават і эмблему арганізатары прыдумалі. Вычыталі, што французскі ваенны фармацэўт Парманц’е, разумеючы карысць бульбы для насельніцтва, бо спачатку сяляне былі супраць вырошчвання гэтай культуры, ішоў на розныя хітрыкі. Угаварыў караля Людовіка XVI прышпільваць кветкі бульбы да мундзіра – гэта стала модным, і сяляне пачалі таргаваць кветкамі бульбы. Потым ставіў днём варту на бульбяным полі, а ноччу сяляне выкопвалі бульбу, каб дазнацца, што за каштоўнасць ахоўваецца. Паступова бульба надзейна ўвайшла ў рацыён французаў, як і іншых краін Еўропы і Азіі, Індыі, Кітая.



Ада Райчонак з Таццянай Матафонавай

На завяршэнні свята старшынёй журы Алай Міхайлавай былі агучаны імёны самых актыўных удзельнікаў фэсту. Пятнаццаць чалавек атрымалі прызы – сувеніры, падрыхтаваныя Адай Райчонак: керамічныя глечыкі, беларускія літаратурныя часопісы, торбачкі з тканіны з беларускім арнаментам для крамы, майкі і іншае.

Вялікую дапамогу ў арганізацыі бульбянога фэсту аказалі супрацоўніцы музея імя Язэпа Драздовіча Людміла Навіцкая, Таццяна Катовіч, Алена Молакава, мясцовыя жыхаркі Ірына Канюшэўская, Зоя Мядзелец, глыбоцкія журналісткі Алена Капшуль і Таццяна Смоткіна, сям’я і блізкія сябры і добрыя знаёмыя Ады Райчонак.

Хацелася б, каб добрыя пачынанні і справы, якія яна робіць для людзей, знаходзілі падтрымку ў ідэалагічным аддзеле райвыканкама, у Шаркоўшчынскім цэнтры культуры, каб мелі павагу да таго, што маеш.

Згубіць лёгка, знайсці цяжка. Менавіта так даваліся пошукі Язэпа Драздовіча як мастака, фалькларыста, этнографа. А ён прароча папярэджваў: “Мяне яшчэ пашукаюць…”

Часта задумваюся: адкуль гэта нястомнасць, сіла духа, станоўчая энергія, дабрыня і вера ў людзей у свае ідэі? Зазначу, што чалавек без ідэі, які толькі есць і спіць, падобны да жывёліны – гэта выказванне Уільяма Шэкспіра. Ідэі павінны быць гуманістычнымі, заснаванымі на пачуцці чалавекалюбства, на карысці для грамадства.

Ада па-іншаму жыць не можа. Яна маленькай дзяўчынкай пачынала жыццёвы шлях з Віцебскага гета, уратавалася, а далей – праца і праца. Над сабой, на асветніцкай ніве. Фізічная праца – без яе ў сяле не выжывеш. Страта сына, паэта, фалькларыста, этнографа, справу якога яна паклялася прадаўжаць, пакуль стае моцы. І гэтую моц надае ёй матчына любоў.

*А я ўзяла і аджыла.*
*Цяпер на ўзроўні я з усімі.*
*Адкуль жа моцы ты ўзяла?*
*З любові, што вы ўсе забылі.*
*Прыйшла я з вогненнай бяды,*
*З маланкі, разараўшай неба,*
*З сляпога жабрака рукі,*
*У якой камень замест хлеба.*
*…………………*
*І моцная, да тых іду,*
*Каму балюча так і горка.*
*Сумненні ўсе на іх шляху*
*Выпальваю я кожным крокам.*

***Пераклад з рускай мовы Л. Ардынскай***

Гэтыя радкі з верша рускамоўнай віцебскай паэткі Тамары Красновай-Гусачэнкі вельмі блізкія лёсу Ады Райчонак, якую добра ведаюць, любяць і паважаюць не толькі ў Шаркоўшчынскім раёне, але і далёка за яго межамі.

За шчырасць і дабрыню, спагаду і дапамогу, за адданасць справе, якой яна служыць дзеля Бацькаўшчыны.

# У Глыбокім прайшоў Круглы стол, прысвечаны стану беларускай мовы

**Мерапрыемства было арганізавана мясцовымі суполкамі Таварыства беларускай мовы і Беларускай асацыяцыі журналістаў.**

■ **Зміцер Лупач**

Удзельнікі абмеркавалі стан беларускай мовы ў нашым рэгіёне, падвялі вынікі суменсай працы за першае паўгоддзе.

У прыватнасці, сумеснымі намаганнямі ўдалося выдаць невялікімі тыражамі зборнікі мясцовых паэтаў Марыі Ючкавіч «Дарога да касцёла», Віктара Сікоры «Шурпатая дарога», Марыі Новікавай «Паверу ў цуды». Таксама падрыхтавана і надрукавана праца Змітра Лупача «Назвы вуліц Глыбокага».

Прадстаўнікі грамадскасці Глыбоччыны звярталіся да мясцовых уладаў з просьбай размясціць на шыльдах з назвамі вуліц іх гістарычныя назвы. Пакуль, на жаль, гэта ініцыятыва не знайшла падтрымкі, але ўсё ж хочацца спадзявацца, што з цягам часу гэта пытанне вырашыцца станоўча.

Таксама хочацца спадзявацца, што ў хуткім часе ў Глыбокім будзе нейкім чынам ушанавана памяць знакамітага агранома Баляслава Лапыра. Бо ён быў не толькі добрым аграномам, але і шчырым беларускім патрыётам, таму яго імя не павінна быць забытае.

Наогул, стан беларускай мовы ў сучаснай незалежнай Беларусі не можа не выклікаць трывогі. Нават у нашым горадзе, дзе большасць насельніцтва лічыць беларускую мову роднай, на трэцім дзясятку незалежнасці няма ні аднай беларускай школы, дарожныя ўказальнікі пішуцца па-руску, вонкавая рэклама таксама амаль уся рускамоўная. А потым мы крыўдзімся, што беларусаў не паважаюць у свеце! А хто ж будзе нас паважаць, калі мы самі не хочам шанаваць сваёй мовы, сваёй культуры, сваёй гісторыі.

*Да “Дранік-фэсту” ў Германавічах*

## Бульбашы

Ужывалі продкі боб, гарох у ежу,
Гарбуз і рэдзьку, параную рэпу.
Ды бульбачку завезлі нам з замежжа –
Асмакаваліся, другім назвалі хлебам.
І стала бульба ў стравах уладарыць.
Гасцей з ёй сустракаем ад душы.
Пякуць яешню, у печы сала сквараць
Да бульбы беларусы – бульбашы.
Заморскіх піцаў, сушаў не гатуем,
На прысаку мы бульбы напячом.
Крамяных дранікаў уволю пакаштуем
І дранікі са смятанкай паднясём.
Нафаршыруем свежанькай грыбамі,
Кладзём і “душы” ў клёцкі ад душы.
Пад чарку ногі ў скокі пойдуць самі,
Ад бульбы маюць сілу бульбашы.
Як жытні першы, і другі нялёгкі хлеб:
Мяхі цягаем на плячах, кашы.
На стравы з бульбы напаўняюць поўны склеп,
Каб выжыць, беларусы – бульбашы.

*Людміла Ардынская*

# Абарані сябе ад парэнтэральнага віруснага гепатыту!

## 28 ліпеня – Сусветны Дзень барацьбы з гепатытамі




**Штогод 28 ліпеня адзначаецца Сусветны дзень барацьбы з гепатытам.**

■ **С. Стальмачонак,** *памочнік урача-эпідыёлага Глыбоцкага РЦГЭ*

Вірусны гепатыт паражае сотні мільёнаў людзей ва ўсім свеце, выклікаючы вострыя і хранічныя захворванні печані, якія прыводзяць да 1.400.000 выпадкаў смерці. Праблема захворвання на вірусныягепатытыз'яўляецца актуальнай для многіх краін свету, у тым ліку і для нашай краіны. Рэспубліка Беларусь адносіцца да рэгіёнаў свету з умераным узроўнем распаўсюджвання парэнтэральных вірусных гепатытаў (далей ПВГ). У Рэспубліцы Беларусь у 2014 годзе было выяўлена 5657 новых выпадкаў ПВГ, па Віцебскай вобласці зарэгістравана 712 новых выпадкаў ПВГ. У раёне штогод рэгіструецца каля 20-30 ізноў выяўленых выпадкаў ПВГ. У структуры ПВГ пераважаюць хранічныя формы парэнтэральных гепатытаў В і С.

Парэнтэральныя вірусныя гепатыты – гэта запаленчыя захворванні печані, выкліканыя вірусамі гепатытаў В, С і D. Найбольш паражаемымі ўзроставымі групамі з'яўляюцца пераважна асобы ва ўзросце ад 20 да 60 гадоў.

Крыніцай інфекцыі парэнтэральных вірусных гепатытаў з'яўляецца чалавек - хворы гепатытам у вострай або хранічнай форме, а таксама бессімптомны носьбіт віруса. Носьбіты вірусаў могуць не здагадвацца, што яны заражаныя і з'яўляюцца крыніцай інфекцыі. Вірус змяшчаецца ў высокіх канцэнтрацыях ў крыві, сперме, вагінальным сакрэце, у меншых - у сліне, мачы, грудным малаку. Для заражэння хапае драбнюткай кроплі крыві (0,0005 мл), часам нават нябачнай няўзброеным вокам.

Як выяўляецца інфекцыя?

Інфекцыя можа працякаць як клінічна выражана, так і бессімптомна. Інкубацыйны перыяд (перыяд ад моманту заражэння да першых клінічных праяў) складае ад 2 тыдняў да 6 месяцаў. Працяглы інкубацыйны перыяд абцяжарвае своечасовую дыягностыку, паколькі агульнае недамаганне, слабасць, зніжэнне апетыту ў пачатковым перыядзе захворвання асаблівай трывогі ў захварэўшага не выклікаюць, і як правіла, спісваецца усё на «простую стомленасць». У далейшым паступова павялічваецца печань, каса, з'яўляецца сверб скуры, мача цямнее, кал абесколяроўваецца, з'яўляецца жаўтушнасць склер і скурных покрываў, болі ў правым падрабрынні. Небяспека гэтых гепатытаў заключаецца ў схільнасці да развіцця хранічнай інфекцыі, пры якой вірус захоўваецца ў арганізме чалавека дзясяткі гадоў і, паступова руйнуючы печань, можа прывесці да цырозу ці раку печані.

Больш за палову выпадкаў ПВГ першыя 5 - 10 гадоў пасля інфікавання працякаюць без выяўленых клінічных праяў – у форме носьбіцтва. Вірусы, якія выклікаюць вірусныя гепатыты В і С, называюць «ціхімі забойцамі», таму што з імі можна жыць гадамі, нічога не падазраваць і неўсвядомлена перадаваць вірусы іншым людзям.

Да неспрыяльных фактараў, якія ўскладняюць працэс захворвання, адносяцца: злоўжыванне алкаголем, ужыванне наркотыкаў, заражэнне некалькімі вірусамі, аслаблены імунітэт. Для аднаўлення функцыі клетак печані патрабуецца працяглы час, сур'ёзнае лячэнне і строгі рэжым харчавання, які забяспечвае зберагальную нагрузку на клеткі печані.

**Інфікаванне вірусам гепатыту В, С і D можа адбыцца ў наступных сітуацыях:**

■ ад інфікаванай маці да яе дзіцяці (ўнутрычэраўна праз плацэнту падчас цяжарнасці або падчас родаў пры праходжанні плоду праз радавыя шляхі);

■ пры неабароненых палавых кантактах;

■ пры бытавым кантакце (пры судотыку з пашкоджанымі скурнымі покрывамі і слізістымі абалонкамі інфікаванага чалавека, пры доглядзе за ім, падчас вулічных боек; пры сумесным выкарыстанні з хворым агульных прадметаў асабістай гігіены – прыбораў для галення, ручнікоў, мачалак, зубных шчотак, грабянцоў, нажніц, забруджаных біялагічнымі вадкасцямі);

■ пры ўнутравенных уводзінах наркотыкаў з выкарыстаннем агульных шпрыцаў, іголак ці ўжо інфікаванага наркотыку;

■ падчас нанясення татуіровак, правядзення пірсінгу, манікюру ў непрыстасаваных умовах забруджаным нестэрыльным інструментарыем;

■ некаторая рызыка заражэння існуе і пры правядзенні медыцынскіх маніпуляцый: пры пераліванні крыві, пры розных хірургічных умяшаннях, дыягнастычных працэдурах; аднак у нашай краіне гэта рызыка зведзена да мінімуму, бо пры правядзенні маніпуляцый выкарыстоўваюцца аднаразовыя стэрыльныя шпрыцы, інструментар і перавязачны матэрыял, а для папярэджання заражэння праз донарскую кроў – уся кроў тэстуецца на вірусы.

**Вірусы гепатытаў В, С і D не перадаюцца:**

■ пры чханні або кашлі;

■ пры поціску рукі, абдымках або сяброўскіх пацалунках;

■ праз ваду, ежу або сталовы посуд.

**Прафілактыка - гэта:**

■ вакцынацыя супраць гепатыту В; вакцына, што ўжываецца, высокаэфектыўная і прадухіляе ўзнікненне гепатыту В на 95% (вакцыны супраць гепатыту С у свеце не існуе, навуковыя даследаванні па яе стварэнні вядуцца);

■ надзейны адзіны палавы партнёр і выкарыстанне прэзерватыва;

■ катэгарычная адмова ад ўнутрывеннага ўвядзення наркотыкаў;

■ выкарыстанне толькі індывідуальных прадметаў асабістай гігіены: прыбораў для галення і манікюрных прыладаў, ручнікоў, нажніц, грабянцоў, мачалак, зубных шчотак;

■ асцярожнае стаўленне да ўсіх маніпуляцый, падчас якіх парушаецца цэласнасць скурных і слізістых покрываў – да татуіроўкі, пірсінгу, манікюру і інш., асабліва калі яны праводзяцца ў непрыстасаваных умовах, дзе не выконваюцца правілы дэзінфекцыі і стэрыльнасці.

**Памятайце: Ваша асабістае здароўе залежыць толькі ад Вас.**



# Правілы бяспекі на паляванні часта пішуцца крывёю саміх паляўнічых

**З прыходам жніўня наступае актыўная пара адкрыцця палявання на розныя віды паляўнічых жывёл і, у першую чаргу, на вадаплаўчую і балотную птушку. У сувязі з чым Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету лічыць неабходным нагадаць некаторыя тэрміны адкрыцця палявання, а таксама неабходнасць захавання правілаў тэхнікі бяспекі на паляванні, наяўнасці дазваляльных дакументаў.**

■ **В.Е. Катовіч,** *дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Як кажуць у народзе, нават незараджаная стрэльба, якая вісіць на сцяне, адзін раз у год страляе, а таму самым галоўным для чалавека са стрэльбай павінна быць выкананне мер бяспекі са зброяй пры правядзенні палявання, пераездзе да месца палявання, абыходжанне з паляўнічай зброяй. Правілы бяспекі на паляванні, на жаль, вельмі часта пішуцца крывёю саміх паляўнічых.

Часта паляўнічыя пры пераездзе з аднаго месца палявання ў другое не зачахляюць і не разраджаюць зброю, што з'яўляецца грубым парушэннем Правілаў палявання, можа прывесці да трагедыі, вінаватыя нясуць адміністрацыйную або крымінальную адказнасць. Пры перасячэнні розных перашкод, ручаёў, каналаў, бураломаў і г.д. зброя заўсёды павінна быць разраджана, пры сустрэчы паляўнічага са службовымі асобамі органаў дзяржаўнага паляўнічага кантролю, органаў унутраных спраў, іншымі паляўнічымі альбо грамадзянамі зброя таксама павінна быць разраджана. Наяўнасць дазваляльных дакументаў на захоўванне і нашэнне зброі, паляўнічай пуцёўкі і іншых дакументаў абавязковая, выплата дзяржаўнай пошліны на права палявання абавязковая.

**З другой суботы жніўня па другую нядзелю снежня** ў светлы час сутак дазволена паляванне на вадаплаўчую (акрамя гусей) і балотную дзічыну, слонку (вальдшнэпа), вяхіра, шызага голуба, перапёлку, фазана, з засады, з падыходу, з пад'езда, з маламернага судна.

**З 20 жніўня па 30 верасня** дазволена ружэйнае паляванне на лася (дарослага самца), аленя высакароднага, плямістага і лань еўрапейскую з засады, з падыходу.

**Да 30 верасня** працягваецца ружэйнае паляванне з засады, з падыходу на дзіка, з 18-00 да 9-00 гадзін.

**З 1 кастрычніка па 31 снежня** адкрываецца асеннезімовае паляванне загонам, з засад, з падыходу, у тым ліку з паляўнічымі сабакамі на лася, аленя, дзіка, казулю еўрапейскую, лань.

**З 23 жніўня па другую нядзелю снежня** ў светлы час сутак дазваляецца паляванне на вадаплаўчую дзічыну.

*(У выпадку змены тэрмінаў, спосабаў палявання ўся інфармацыя будзе паведамлена дадаткова)*

Супрацоўнікі міжраённай інспекцыі пераканаўча просяць паляўнічых ўважліва вывучаць і выконваць правілы вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, каб не стаць міжвольным іх парушальнікам.

**Аб ўсіх правапарушэннях Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 2-86-70 -кругласутачна, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 МТС.**

# Жніво не за гарамі

**Наступіў ліпень! Надышло спрыяльнае надвор'е, і прыйшла пара ўборкі ўраджаю, што ў сваю чаргу звязана з вялікім аб'ёмам сельскагаспадарчых работ, якія часта праходзяць паблізу або пад паветранымі лініямі электраперадач. У сваю чаргу тэрыторыі ахоўных зон ліній электраперадач не выводзяцца з сельскагаспадарчага абароту ці іншага выкарыстання.**

■ **А.Н. Ішуцін,** *інспектар Глыбоцкага МРА "Энерганагляд"*

Для забеспячэння захаванасці электрычных сетак да і вышэй 1000 В, стварэння нармальных умоў эксплуатацыі гэтых сетак і прадухілення няшчасных выпадкаў вакол электрычных сетак ўстанаўліваюцца ахоўныя зоны. І не выкананне правілаў працы ў ахоўных зонах электраперадач часта прыводзяць да няшчасных выпадкаў.




Парадак і ўмовы правядзення работ у ахоўных зонах ліній электраперадач павінны быць узгоднены з арганізацыяй, якая эксплуатуе дадзеную лінію.

У ахоўных зонах ліній электраперадачы забараняецца:

■ прымяненне высокагабарытных машын і механізмаў, без пагаднення з уладальнікам электрычных сетак і нараду-допуску;

■ прыпынак машын і механізмаў;

■ транспарціроўка высокагабарытных грузаў;

■ знаходжанне абслугоўваемага персаналу на аўтамашыне, трактары, камбайне па-за кабіны або ахоўнага казырка;

■ рабіць якія-небудзь дзеянні, якія могуць парушыць нармальную працу электрычных сетак, прывесці да іх пашкоджання або да няшчасных выпадкаў.

Кіраўнікам гаспадарак неабходна правесці навучанне і інструктажы па электрабяспецы з усімі механізатарамі, якія ўдзельнічаюць ва ўборачнай кампаніі.

Энерганагляд папярэджвае, што ў адпаведнасці з Кодэксам Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях па артыкуле 20.3 «Парушэнне правілаў аховы электрычных сетак» цягне накладанне штрафу ў памеры да 50 базавых велічынь, а на юрыдычную асобу да 500 базавых велічынь.

